№ 82 (4129)

www.nv-online.info

21 кастрычніка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

*«Народная Воля»*
в Twitter *www.twitter.com/narodnaya_volya*
в Facebook *www.facebook.com/nv.online.info*
в Vkontakte *www.vk.com/nvonlineinfo*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Аляксандр Гарашчэня абразіў не толькі Рыгора Барадуліна, ён абразіў усю Беларусь!



ПРЫЗНАННЕ

## Рыгора Барадуліна ён нават не чытаў

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пагутарыў з "героем" скандальнай гісторыі.*

**– Вы раней нічога не ведалі пра Рыгора Барадуліна, не чыталі яго вершы ў школе?**

– Не чытаў.

**– Ведаеце, на вас збіраюцца падаваць заяву ў пракуратуру?**

– Няхай падаюць, і няхай суд, у рэшце рэшт, вызначыць ступень маёй вінаватасці.

**– Якая была рэакцыя на гэты ўчынак вашых калег па працы?**

– Зараз мне патэлефаналі з БДУ і паведамілі, што працягнуць супрацоўніцтва са мной не могуць. А ў агенцтве нерухомасці я таксама больш не працую.

**– Вам сорамна за тое, што зрабілі?**

– Зразумела, што гэта быў учынак, якім ганарыцца ніяк нельга. Трэба было калі і пісаць, то абыходзячы без нейкіх брыдкіх выразаў. Але што зроблена, тое ўжо зроблена…

***

Як бачым, спадар Гарашчэня паняцця не мае пра такую нацыянальную асобу, як Рыгор Барадулін, і ў той жа час абазваў яго "нацысцкай сволаччу". Пры гэтым забараніў сыну вывучаць вершы народнага паэта Беларусі.

Што гэта – звычайная неадукаванасць, манкуртва ці хуліганства на палітычнай глебе? Мяркую, адказ на гэтае пытанне грамадскасць атрымае ў бліжэйшы час.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Каторы дзень інтэрнэт гудзе ад тага, якую, можна сказаць, бандыцкую абразу нанёс народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну рыэлтар Аляксандр Гарашчэня (на фота).

На сваёй старонцы ў сацыяльных сетках ён, нават не хочацца чытаць, напісаў : *"Сыну ў школе задалі вывучыць верш Рыгора Барадуліна. Рыгор гэты ёсць у яго падручніку. Сябра Партыі БНФ, то бок пераканаая нацысцкая сволач, цяпер ужо дохлая. Грэкакаталік, натуральна, і, як паэт, дрэнь. Увогуле, я яму сказаў, што вось гэта ён вучыць не будзе. Хлопец уздыхнуў з палёгкай".*

Калі гэты, прабачце, крымінальны пост выпадкова ўсплыў, ён літаральна ўзарваў свядомую грамадскасць.

"Народная Воля" таксама не можа пакінуць гэтую надзвычай скандальную гісторыю па-за сваёй увагай...

АЎТАРЫТЭТНА

Сяргей ЗАКОННІКАЎ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:

## «Проста мярзотнік»

– Гэты гнюсны выпадак дае падставу глянуць на сітуацыю ў Беларусі больш аб'ёмна. У нас развялося шмат вялікіх знаўцаў і ацэншчыкаў літаратуры, і многія з іх самі спрабуюць нешта рыфмаваць, а потым, калі нешта не ўдаецца, яны страшна ненавідзяць усіх таленавітых і паспяховых творцаў. І пра гэта таксама трэба гаварыць, хоць чалавек, які абразіў Барадуліна, і не з гэтай кампаніі.

З аднаго боку, у Еўропе Беларусь славіцца як краіна паэтаў. А з другога – і мы пра гэта амаль ніколі не гаворым – гэта краіна заўзятых графаманаў і бяздарных людзей. І гэтая бяздарнасць выяўляецца не толькі ў паэзіі, але і ў паліцыцы, навуцы, эканоміцы, вытворчасці. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба, усё як на далоні.

Што тычыцца гэтага канкрэтнага выпадку з рыэлтарам і пазаштатным выкладчыкам БДУ, то мне абсалютна не зразумела, для чаго ён выносіць свае выказванні на шырокую публіку. Можа, хацеў паказаць, што такі круты і можа абразіць народнага паэта? Альбо зрабіў гэта, каб наогул зняважыць усіх беларусаў? Магчыма, ён ненавідзіць беларускую мову. Але ж калі чытаеш гэтага ж самага Гарашчэню, то ўзгадваеш, якія ацэнкі выдае беларускай мове і нашым лепшым пісьменнікам сам кіраўнік краіны...

Барадулін не павінен падабацца ўсім. І сапраўды можа не падабацца Гарашчэні, хоць, як я зразумеў, для яго ні Барадулін не аўтарытэт, ні Быкаў. Але я пра іншае хачу сказаць. Як такі чалавек можа выкладаць ва ўніверсітэце? У дзяржаўным універсітэце? Як з такімі думкамі можна наогул існаваць да людзей?

У інтэрнэце з'явілася некалькі публікацый наконт таго, што не трэба таптаць гэтага антыгероя, бо тыя, хто яго топча,ператвараюцца ў такіх жа антыгерояў, як і ён сам. Мне падаецца, што гэты Гарашчэня нават не антыгерой. Ён проста мярзотнік. А мярзотнікі заслугоўваюць адпаведнай ацэнкі.

Калі дарослы чалавек, пры памяці, выкладчык, гаворыць свайму сыну, што не трэба вучыць верш Рыгора Барадуліна, то... Ну а навошта тады хадзіць у школу, калі можна слухаць толькі свайго бацьку і выдуманага бацьку ўсёй Беларусі – і тады будзеш вядаць толькі адно: што ў Беларусі, як Францішак Скарына шпацыруе па Пецярбургу... Разумныя людзі ведаюць, каго я падразумяю.

Учынак гэтага рыэлтара Гарашчэні падобны на дзеянні чалавека, які спецыяльна гучна сапсаваў паветра ў грамадскім месцы і пасля гэтага пераможна абвёў ганарлівым позіркам усю публіку.

А Рыгор Барадулін як быў, так і застанецца геніяльным паэтам Беларусі. Навечна! І новыя пакаленні будуць вучыць на памяць ягоныя вершы ў школе. Бо не такія мярзотнікі і цэмрашалы робяць падвор'е ў Беларусі. У нашай краіне вельмі шмат таленавітых і разумных людзей ва ўсіх сферах.

Рыгор СІТНІЦА, старшыня Беларускага саюза мастакоў, член Саюза беларускіх пісьменнікаў:

## «Гэта невуцтва і хамства!»

– Я лічу, што трэба ісці ў суд і патрабаваць, каб гэтага чалавека пакаралі за абразу. Такіх людзей трэба спыняць і вучыць. Бо гэта пераходзіць межы дазволенага. І калі суд прызначыць яму штраф, то гэтыя грошы павінны пайсці на мемарыяльную дошку, якую мы павесім на доме, дзе жыў геніяльны паэт Рыгор Іванавіч Барадулін.

Думаю, і Партыя БНФ таксама можа звярнуцца ў суд.

Я чалавек вельмі трывалы да ўсялякіх заяў, але гэта мая глыбінная, асабістая абраза. Я гэтаму чалавеку ніколі не дарую гэтых слоў. Ён пакрыўдзіў тысячы людзей, якія захапляюцца Барадуліным. Ягоныя словы – гэта невуцтва. Хамства. Цемрашальства. І гэтага нельга проста так пакідаць. Ён абразіў усю беларускую літаратуру, дзяржаўную мову ў рэшце рэшт.

Рыгор Барадулін – гэта чалавек, якім Беларусь павінна ганарыцца!

А яшчэ мне шкада таго дзіцёнка, у якога такі бацька...

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК, паэт:

## «Нарэшце грамадства прачнулася...»

– Я магу сказаць наступнае: дзякуй Богу, што наша грамадскасць нарэшце прачнулася. Але шкада, што яно не прачнулася ў 1995 годзе, калі быў зняважаны Янка Брыль. Дарэчы, таксама народны пісьменнік. Успомнім непрыгожае выступленне Глобуса ў адной з беларускіх газет.

Шкада, што наша грамадскасць не прачнулася, калі Бахарэвіч зняважыў Янку Купалу, назваўшы яго *"Каянам-Лупакам"*. А Купала, заўважу, таксама народны. Многія тады прамаўчалі. Выступіў толькі Рыгор Сітніца, але ён зрабіў гэта ад самога сябе. А грамадскасць маўчала. Так што я радуюся, што нарэшце яно прачнулася.

Праблема, калі ў нашым беларускім полі зневажаюць беларускіх народных пісьменнікаў, пачалася не з гэтага выкладчыка Гарашчэні. Яе запачаткавалі ў тым ліку і тыя людзі, якія з'яўляюцца носьбітамі беларускай культуры. На вялікі жаль...

**(Працяг тэмы чытайце на 2-й стар.)**

КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

## Ці можна прыцягнуць Гарашчэню да адказнасці?

– Калі абразу, якую дазволіў сабе гэты чалавек у сацыяльных сетках, разглядаць у кантэксце адміністрацыйнага ці крымінальнага пераследу, то тут павінен быць пацярпелы – канкрэтная фізічная асоба, якую абразілі, – кажа праваабаронца **Валянцін СТЭФАНОВІЧ.** – А яе няма. Таму ў адміністрацыйна-крымінальным парадку да адказнасці Гарашчэню не прыцягнеш.

Тэарэтычна магчыма гэта зрабіць у грамадзянска-прававым парадку. Грамадзянскі кодэкс прадугледжвае магчымасць абароны гонару і годнасці (у тым ліку і памерлых) шляхам падачы іску ў суд з мэтай абвяржэння непраўдзівай інфармацыі і патрабаваннем кампенсацыі маральнай шкоды. Гэта могуць зрабіць блізкія Рыгора Іванавіча Барадуліна.

БЕЗ РЕТУШИ

## Кладбище талантов



Валерий КАРБАЛЕВИЧ, специально для «Народной Воли»

Смерть талантливого доктора и общественного деятеля Ивана Шеги из Слонима побудила к размышлению о тяжелой судьбе в нашей стране людей талантливых, но имеющих собственную гражданскую позицию, не только главного редактора газеты «Народная Воля» Иосифа Середича («НВ», №78), но и меня. С И.Шегой, которому только стукнуло шестьдесят и который на то время являлся вполне здоровым, жаждущим трудиться и дальше, не был перезаключен контракт, хотя в райцентре был дефицит врачей. Отказали в работе по одной причине – он состоял в оппозиционной партии, не разделял позиций правящего режима.

Таких примеров много. Независимые СМИ широко освещали увольнение членов независимых профсоюзов в Микашевичах, Бобруйске, Полоцке. Хороших специалистов сокращали за то, что вступили в «неправильные» профсоюзные организации.

Хорошо известен погром в Гродненском университете. С кафедр были изгнаны лучшие историки.

*Учительница истории Тальковской средней школы Пуховичского района Минской области Наталья Ильинич была уволена в 2011 году. В 2014 году* в средней школе №10 г.Светлогорска не продлили контракт с Еленой Маслюковой, которая была признана лучшей учительницей Светлогорского района. Обе остались без работы из-за того, что не разделяли официальные идеологические постулаты.

Как вы думаете, какая главная функция учителей в Беларуси? Казалось бы, глупый вопрос. Ведь в любой стране основная работа учителя – это воспитание нового поколения, обеспечение школьников качественными знаниями. Однако в Беларуси немного не так.

Обратимся к весьма авторитетному источнику. 9 августа у президента прошло совещание о ходе приемной кампании и подготовке системы образования к новому учебному году. И вот там А.Лукашенко открытым текстом указал, что основная роль и миссия учителей в Беларуси – политическая. Внимательно прочитайте эту реплику президента: *«Вопрос статуса педагогического работника, скажу точнее – учителя, прежде всего средней школы, уже приобрел не просто общественное звучание, а политическое. По многим причинам. На учителе всегда лежала тяжелая миссия, и никогда богатыми учителя не были. Не совсем богаты они и сегодня. Но нагрузку на них, в том числе политическую, мы накладываем огромную. Возьмите парламентские выборы, недавние президентские выборы: кто составлял основу политического ядра, которое проводило главную политическую кампанию? Учителя, врачи, государственные служащие. И сегодня эти категории граждан, которые обеспечивают стабильность в нашем государстве, необоснованно, наверное, обижены. Но, прежде всего, – учитель».*

Таким образом, качество образования в стране власть не очень-то интересует. Поэтому безжалостно увольняют талантливых, но политически нелояльных педагогов. Функция учителя в Беларуси – быть «основой политического ядра» нынешнего политического режима, обеспечивая нужные результаты во время избирательных кампаний. Ибо из них в значительной мере состоят избирательные комиссии.

Но подобный подход практикуется не только в системе образования. Во всех государственных сферах, системе управления ценится не талант, не компетентность, не ум, не креативное мышление и инициативность, а дисциплинированность, исполнительность, покорность, личная преданность начальнику. Создана всеобъемлющая система отсечения талантов и воспроизводства посредственностей. В итоге кадры в стране снизу доверху – это, говоря словами известного фильма, «пятьдесят оттенков серого».

Вот очень показательная история. Сейчас идет судебный процесс над блогером Эдуардом Пальчисом. В свое время он получал премию специального фонда президента Беларуси по поддержке талантливой молодежи, имеет диплом Министерства образования. А сейчас он в тюрьме. Суд сделали закрытым, чтобы никто не узнал правду. Быть политзаключенным – вот удел талантливых людей в Беларуси.

Гендиректор Парка высоких технологий Валерий Цепкало в интервью «Советской Белоруссии» (25.08.2016) заметил, что если бы основатели компании Apple Стив Джобс и Стив Возняк работали в Беларуси, то давно оказались бы в тюрьме, а их имущество конфисковали бы. Ибо здесь любое успешное предприятие тут же становится предметом пристального интереса правоохранительных органов.

Возможно, на этапе индустриальной революции, мобилизационной экономики, когда большие массы людей были заняты однообразным трудом, жесткий стиль управления, дисциплинированность, исполнительность еще имели какой-то положительный эффект. Но в эпоху постиндустриального, информационного общества требуется совсем иной механизм отбора, продвижения специалистов.

Почему успешно развивается тот же Парк высоких технологий? Потому что государство не вмешивается в его деятельность, не проводит селекторные совещания, не доводит планы, не проводит политинформации, не создает ячейки БРСМ и «Белой Руси», не увольняет людей с оппозиционными взглядами. Иначе говоря, не мешает работать. Но это маленький анклав, остров, на который почти не распространяется всевидящее око государства.

Однако вся проблема в том, что общество и государство, построенные на таких принципах подбора кадров, не способны обеспечить развитие страны. Такой метод управления с неизбежностью порождает деградацию и мертвящий застой, которые в Беларуси официальная пропаганда называет стабильностью. Уже в течение 20 лет в государстве нет смены элит во всех сферах, заблокированы социальные лифты. Создается тромб, блокирующий всякое развитие. Такое общество не имеет перспектив.

В итоге талантливые люди уезжают за границу. Время от времени в СМИ сообщается, что какой-то белорус достиг больших успехов в другой стране: США, государствах ЕС. Даже в России немало миллиардеров, олигархов с белорусскими корнями. В Беларуси они либо сидели бы в тюрьме, либо убирали бы арбузы в резиденции А.Лукашенко. Либо то и другое по очереди, как Ю.Чиж. При таком подходе вскоре Беларусь окажется страной, где основную часть взрослого населения будут составлять пенсионеры и силовики.



С МОЛОТКА!

## Недостроенный отель продается за долги

*Недостроенный комплекс зданий по улице Старовиленской в Минске, который задумывался как пятизвездочный отель Hyatt Regency, выставлен на аукцион.*

Начальная стоимость – около 49 миллионов долларов.

Правда, этот гостиничный комплекс – весьма проблемный актив. После продажи средства пойдут на погашение долгов застройщика перед кредиторами, которые выделили деньги на возведение зданий. Среди кредиторов – несколько крупнейших белорусских банков.

**Вера ВИР.**

НАДВОР'Е

## Снег адмяняецца

На пачатку тыдня сіноптыкі прагназавалі, што ў пятніцу выпадзе мокры снег. Але потым змяніліся меркаванне: сёння чакаецца надвор'е пераважна без ападкаў, дажджы магчымы толькі ў асобных раёнах Гродзенскай і Брэсцкай абласцей. Тэмпература ўдзень +4…+9°С.

*У суботу 22 кастрычніка* магчымы дажджы. Парывы ветру будуць дасягаць 15–18 метраў за секунду. У начныя гадзіны тэмпература паветра складзе +0…+6°С, у дзённыя – +2…+8°С.

*У нядзелю 23 кастрычніка* будзе крыху цяплей: удзень +2…+8°С (у Брэсцкай вобласці да +10°С). Але дажджы магчымы на большай частцы тэрыторыі нашай краіны.

**На пачатку наступнага тыдня** на большай частцы тэрыторыі Беларусі таксама прагназуюцца дажджы. Уначы чакаецца -1…+6°С, удзень +2…+7°С (у Брэсцкай вобласці +8…+10°С).

